ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 2 (102) 13 – 19 студзеня 1995 г. Кошт 100 рублёў

*Прэзідэнцкая дзейнасьць на Беларусі - працяг заганнай дзейнасьці дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савета* - ст. 2.

*Беларусь у сілу свайго геапалітычнага становішча мусіць быць адкрытай краінай.* - ст. 3.

*Да кліентаў "спадарожніц" прывозяць пад відам "хатніх гаспадынь" з вёдрамі і шчоткамі.* - ст. 4.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

**Да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

## ЗВАРОТ

### Гарадзенскай абласной і Гарадзенскай гарадзкой рады ТБМ імя Францішка Скарыны

Шаноўны Спадар Прэзідэнт незалежнай Беларусі.

Беларускі народ аказаў Вам давер, ададаўшы поўную і неабмежаваную уладу над сваёй шматпакутнай Бацькаўшчынай у Вашы рукі.

Выбіраючы Вас Прэзідэнтам, беларускі народ спадзяваўся, што Вы станеце гарантам спакою, дабрабыту і сацыяльнай справядлівасьці. Але пра які спакой можна казаць, калі Вы, спадар Прэзідэнт, самі распальваеце варожасьць і ствараеце напружанасьць у беларускім грамадзтве. У Беларусі ідзе планамернае выкананьне Закона аб мовах, адраджаецца прыгажэйшая і старажытнейшая славянская мова. Абсалютная большасьць народа ўспрымае гэты працэс як нармальны і заканамерны. У гэты ж час Вы - кіраўнік дзяржавы - грэбуеце дзяржаўнай мовай, дапускаеце публічныя выказваньні супраць беларускай мовы, падбухторваеце ворагаў Беларушчыны на адкрытыя выступленьні. Вы правакуеце нас на такі ж адкрыты адпор, Вы змушаеце нас дзеля абароны мовы ісьці на праявы нецярпімасьці і радыкальныя дзеяньні. Вы самі падрываеце спакой у сваёй краіне.

Вы патураеце спробам замяніць нашую нацыянальную сімволіку, добра ведаючы, што без бою мы яе не аддамо. Вы зноў змушаеце нас на крайнія дзеяньні, Вы зноў парушаеце спакой грамадзтва.

Вы грэбуеце нашай незалежнасьцю, адкрыта заяўляеце аб жаданьні далучыць Беларусь да Расеі. Але Вы выдатна ведаеце, што мы будзем бараніць сваю незалежнасьць, як рабілі гэта нашыя дзяды-прадзеды на працягу стагоддзяў. Вы рыхтуеце грамадзянскую вайну на Беларусі. Вы правадзіце прарасейскую палітыку, разьлічваючы, у выпадку чаго, на расейскія войскі, і не жадаеце разумець, што Вашая палітыка - не палітыка сяброўства з Расеяй, а палітыка Беларуска-Расейскай вайны.

Спадар Прэзідэнт. Мы раішуча патрабуем накіраваць Вашую Прэзідэнцкую ўладу і сілу не на патураньне ворагам Беларусі, а на абарону яе незалежнасьці, яе культуры, яе мовы. Вы прынялі ў свае рукі незалежную краіну і цераз пяць гадоў павінны вярнуць незалежную Рэспубліку Беларусь, а не Паўночна-Заходні край Расеі.

## ЗАЯВА ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМЕНТУ ЗША

30 сьнежня выконваючая абавязкі прэссакратара Дзяржаўнага дэпартаменту ЗША Крысьцін Шэнлі зрабіла наступную заяву:

“Шэраг беларускіх газет зрабіў спробу надрукаваць даклад члена парламента рэспублікі, у якім былі абвінавачаньні у адрас высокапастаўленых асобаў з адміністрацыі прэзідэнта Лукашэнкі. Газеты выйшлі з белымі плямамі на тых месцах, дзе павінен быў знаходзіцца надрукаваны даклад.

Мы з заклапочанасьцю ставімся да любога выпадку цэнзуры ў адносінах да друку. Свабодныя, без кайданаў цэнзуры сродкі масавай інфармацыі зьяўляюцца заснавальным элементам дэмакратыі і праваднікам мірнага грамадзкага разьвіцця. Праз друк выбаршчыкі знаёмяцца з цыкучымі падзеямі і выказваюць сваю думку аб іх.

Мы заклікаем беларускае кіраўніцтва паважаць правы друку на свабоду слова, якое гарантуецца міжнароднымі пагадненьнямі, такімі, як Усеагульная Дэкларацыя правоў чалавека і Хельсінкскія пагадненьні, а таксама Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Мы зьвяртаемся да Беларусі з заклікам прадоўжыць і ўмацаваць тыя крокі, якія былі ўзяты на шляху дэмакратызацыі і эканамічнай рэформы. Свабодна функцыянірующая прэса ўяўляе сабой важны складаючы элемент гэтага працэсу".

## А ФРОНТ І ГРАМАДА СУПРАЦЬ

Пачатак перадвыбарчай кампаніі новага складу парламента адзначаны стварэньнем блока палітычных сіл левай арыентацыі. У лагеры правых пытаньні перадвыбарчай каардынацыі знаходзяцца ў стадыі актыўнага дыскутаваньня.

На нарадзе партый правай і нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі, якая адбылася 9 студзеня, з боку Аб'яднана-дэмакратычнай партыі паступіла прапанова аб стварэньні так званага мяккага блока ў гарадах з раённым дзяленьнем. У сельскай жа мясцовасьці пацьверджаны намер правых сіл выставіць адзіных кандыдатаў. Аднак ідэя “мяккага блока” не знайшла падтрымкі ў прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Верагоднасьць стварэньня правага блока дастаткова вялікая, аднак, магчыма, што ўдзел у ім прымуць не ўсе партыі. Найбольш рэальным уяўляецца тое, што ў яго не ўвойдзе АДПБ.

## ГАНЧАР – ГЕНЕРАЛЬНЫ САКРАТАР

Адстаўны віцэ-прэм'ер В.Ганчар прыступіў да працы на новай пасадзе. Як паведаміў старшыня Эканамічнага суда СНД Л.Дашук, пасада Генеральнага сакратара адносіцца да разраду адміністратыўна-арганізацыйных. Па яго словах, ніхто не рабіў былому віцэ-прэм'еру пратэкцыі, бо ў колах менскіх юрыстаў усе ведаюць, што ў Эканамічным судзе СНД ёсьць ваканьсіі. Аднойчы патэлефанаваў В.Ганчар. Ён націкавіўся, ці засталіся ваканьсіі і прапанаваў сустрэцца.

## НЯЎРЫМСЬЛІВЫ АНТОНЧЫК

9 студзеня дэпутат ВС РБ С.Антончык зьвярнуўся да сваіх калег-парламентарыяў з просьбай яшчэ раз даць яму магчымасьць выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета з інфармацыяй пра карупцыю ў прэзідэнцкай каманьдзе.

У інтэрв'ю нашаму карэспандэнту спадар Антончык растлумачыў, што другі выступ (калі парламент пажадае яго выслухаць) будзе працягам даклада, зробленага ім на сесіі 20 сьнежня. Ён зьбіраецца паказаць прычыны ўзьнікненьня карупцыі і шляхі яе выкараненьня, абвясьціць новы сьпіс блізкіх да прэзідэнта асоб, якія “стымулююць карупцыйную сістэму і нават дапамагаюць крымінальным структурам атрымліваць прыбытак”.

“Калі ж парламент адмовіцца мяне выслухаць, то я буду выступаць з другім дакладам на буйных сходах працоўных калектываў. Акрамя таго, будзе выпушча на спецыяльная брашура з маім дакладам”, - заявіў Сяргей Антончык.

СІМ

## «АКА» ЗА ВАЛЮТУ

Гарадзенскі завод карданных валаў наладзіў выпуск малалітражнага легкавіка “Ака”.

Гарадзенская малалітражка будзе камплектавацца з запчастак, што пастаўляюцца на завод расейскім канцэрнам “КамАЗ”.

Кошт адной легкавушкі сягае 2800 доляраў ЗША.

**На фотаздымку: першая “Ака” на канвееры.**

**Фатаграфаваў: У.УЛАДАСЕВІЧ.**



**У рэдакцыю працягваюць паступаць віншаваньні з нагоды выхаду ў сьвет сотага нумару “Пагоні”. Шчыра дзякуем усім, хто сьвяткаваў гэтую падзею разам з намі. Пішыце нам! Заставайцеся разам з намі!**




**Калектыву газеты «Пагоня»**

ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Сардэчна віншуем Вас з юбілейным 100-м выпускам Вашай газеты - адной з першых ластавак вольнай незалежнай прэсы на Беларусі.

Сваёй нястомнай працай Вы штодня набліжаеце час росквіту Бацькаўшчыны, яе люду паспалітага, вяртаеце нашы беларускія традыцыі, гонар і славу.

Няхай жа заўжды над Вамі зьзяюць шчасьлівыя зоркі.

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка зьвіняць.
Старадаўняй літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

**З павагай Г.КУНЕВІЧ,**
**Старшыня Праўленьня Фонда падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л.Сапегі.**

Гэты час пабачыў шмат:
Бруд, хлусьню, падман, разврат.
Сьвет утвораны ж лагічна -
Наўсьцяж дыялагічна,
Бачыць кожнае жытло:
Там вось - цемра, тут - сьвятло.
Шлях да сьвету доўгі, цяжкі,
Кожны крок там важны, важкі.
Патрабуе ён ад нас
Мужнасьці ў каторы раз.
Жыць у стане руйнаваньня
Немагчыма і заганна.
Situations разбурэньня
Вымагаюць new стварэньня.
Быць законатворцам - цяжка,
Шматадказна і паважна.
Modern life пераўтварэньні,
Зьявы, рэчышчы, здарэньні
Патрабуюць новых сэнсаў,
Новых творцаў, новых menzau.
Будучыні будаваньню
Неабходны намаганьні.
Набліжаць нармальны час
Неба выбрала ўсіх нас.
Той, хто хоча шчасьця, ладу,
Памятае: “Веды - улада”.
Улада мысьленьня, сумленьня,
Інтуіцыі, натхненьня.
Улада новых тэхналогій,
Разуменьня, псіхалогій.
Нашы дзеці - наша вера,
Хай у жыцьцё ўступаюць сьмела,
Хай становяцца крыніцай
Новых ведаў, мужных дзеяў,
Кемлівасьці ў падзеях,
Добра спраўджаных надзеяў.
Той, хто здольны, той, хто можа,
Хто адказна і прыгожа
У будучыню шлях тарыць -
Бог таго і блаславіць.
Зычым усім на Новы Год
Шчасьця, радасьці, прыгод,
Чыннасьці, сяброў, падзеяў,
Розуму, шмат ведаў, дзеяў.

**Настаўніцка-вучнёўскі калектыў Гарадзенскай філіі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтру.**

## «ХВАЛЯ» ХВАЛЮЕЦЦА

10 студзеня на гарадзенскім ВА “Хваля” адбылася стыхійная забастоўка рабочых. Галоўнае, што паклікала на забастоўку - гэта малы заробак, прастоі, холад у вытворчых цахах. Свае патрабаваньні рабочыя выказалі ў Звароце да адміністрацыі, якая, прыняўшы яго, паабяцала разгледзець і па магчымасьці вырашыць праблемы.

На думку сьлесара інструментальнага цэха Сяргея Р., адміністрацыя наўрад ці выканае патрабаваньні, бо наўзамен таго, каб займацца вырашэньнем праблемаў, бавіцца ў рэформы, а рабочыя з верасьня не атрымлівалі заробку. Заробак выплацілі нядаўна магнітоламі. Пасьля такой выплаты працоўныя засталіся ў даўгу перад касай аб'яднаньня. Да таго ж, у некаторых цахах ужо сёньня сырымі дровамі паляцца печкі-буржуйкі, ад дыму якіх нельга дыхнуць.

**(Ул.інф.)**







# АБ ПАГРОЗЕ БЕЛАРУСІ

## Інфармацыя Ценявога (грамадзкага) Кабінета Міністраў Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту

Негатыўныя працэсы ў эканоміцы, палітыцы і дзяржаўным будаўніцтве, што выразна актывізаваліся пасьля выбраньня прэзідэнта, ствараюць непасрэдную пагрозу суверэнітэту, існаваньню дзяржавы і дабрабыту насельніцтва Беларусі. Стала відавочным, што, як і раней, улады і новае кіраўніцтва краіны не зьбіраюцца праводзіць неабходныя рынкавыя рэформы, не вядуць дзяржаўнай палітыкі з пазіцыі беларускіх інтарэсаў. Працягваецца разбурэньне вытворчасьці, эканомікі, навукі, культуры, з новай сілай раскручваецца інфляцыя, узровень якой у лістападзе 1994 г. перакрочыў 50% у месяц. Прэзідэнцкая ўлада засьведчыла сваю некампетэнтнасьць і недэмакратычнасьць. Цынічна дэманструецца непавага да Канстытуцыі і законаў, да беларускай мовы і культуры, уводзіцца грубая цэнзура і адміністрацыйнае кіраваньне сродкамі масавай інфармацыі. Шляхамі мэтанакіраванай антыбеларускай кадравай палітыкі і скарачэньнем бюджэтнага фінансаваньня разбураецца беларускае войска. Адначасна ўмацоўваюцца МУС і КДБ, у падпарадкаваньне якіх перадаюцца бояздольныя вайсковыя часткі. Разбураецца і без таго недзеяздольная сістэма выканаўчай улады саветаў шляхамператварэньня яе ў аўтарытарную прэзідэнцкую "вертыкаль", што несумненна прывядзе да яшчэ большага росту карупцыі, беззаконьня і парушэньня правоў людзей. Выразна відаць, як ствараецца адміністрацыйна-паліцэйскі аўтарытарны рэжым дзеля таго, каб потым гарантаваць сваю ўладу незалежна ад вынікаў кіраваньня.

За студзень-лістапад 1994 г. у дачыненьні да студзеня-лістапада 1993 г. цэны ўзрасьлі ў 24,2 раза.

Валавы ўнутраны прадукт за гэты ж перыяд зьменшыўся на 22 працэнты, сярэднемесячны прырост спажывецкіх цэнаў склаў 28,4 працэнта, у тым ліку ў лістападзе 1994 г. у параўнаньні з кастрычнікам гэтага ж года - 40,5 працэнта.

На мяжы эканамічнага краху апынулася сельская гаспадарка. Вытворчасьць зерня зьнізілася да ўзроўню 1984 года, закупкі садавіны і гародніны - да ўзроўню 1975 г. Пагалоўе жывёлы паменшылася ў параўнаньні з 1990 годам на 1 млн. 748 тыс.галоў. У тым ліку кароў - на 321 тыс. галоў, сьвіней - на 1 млн. 82 тыс. галоў. Значна зьнізілася прадукцыйнасьць жывёлы. У выніку забясьпечанасьць насельніцтва прадуктамі харчаваньня ў 1994 годзе ўпершыню за апошнія гады апынулася ніжэй мінімальных нормаў па зерні на 25 прац., па мясу - на 24 прац., па малаку - на 15 прац. Паляпшэньня справы ў 1995 годзе не чакаецца. Толькі за апошнія тры месяцы краіна страціла ў выніку падзяжу амаль 400 тыс. галоў жывёлы. Запасы кармоў меншыя за мінулагодніх на адну трэць. Працягваецца цэнавы "разбой". Прадукцыя забіраецца ў вытворцы па цэнах, у 4-5 разоў меншых, чым рознічныя цэны ў магазінах. Выкарыстоўваецца механізм інфляцыі дзеля абагачэньня наменклатуры, расьце карупцыя, пашыраецца злачыннасьць, ініцыіруецца наступ найбольш адсталых і рэакцыйных сіл на беларускую культуру і дэмакратыю.

Палітычныя і эканамічныя дзеяньні кіраўніцтва краіны накіраваны не на абарону нацыянальных інтарэсаў Беларусі, а на задавальненьне дамаганьняў расейскіх (і зьвязаных з імі беларускіх) фінансава-прамысловых карпарацыяў (канцэрнаў, саюзаў, таварыстваў і т.п.). Пачаўся гандаль нацыянальнай маёмасьцю, выношваюцца планы здачы беларускай уласнасьці расейскім манаполіям, тым, што вызначаюць дзяржаўную палітыку ў Расеі; падрыхтаваны праект мытнага саюза з Расеяй, у выніку якога павінен быць па задуме практычна ліквідаваны беларускі экспарт і беларуская самастойнасьць у гандлі, у справах транзіту па сваёй тэрыторыі і г.д. Беларусь уцягваецца ў так званую калектыўную бясьпеку з Расеяй (якая вядзе агрэсіўныя войны), заганяецца ў эканамічны саюз на нераўнапраўных умовах, у інфармацыйную прастору, дзе дамінуе расейская імперская прапаганда. Прэзідэнцкая дзейнасьць на Беларусі - гэта працяг заганнай дзейнасьці дэпутацкай большасьці Вярхоўнага Савета, якая пажынае цяпер плады сваёй дрэннай працы.

Антынацыянальная палітыка кіраўніцтва Беларусі можа прывесьці да поўнага разбурэньня слабога яшчэ беларускага прадпрымальніцтва і банкаўскай справы (якія будуць проста праглынуты расейскімі кампаніямі і манаполіямі), да яшчэ больш рэзкага пагаршэньня жыцьця людзей, якія будуць жыць на сваёй зямлі: але яна перастане ім ужо належаць, будуць працаваць на заводах, прыбытак з якіх будзе атрымліваць не Беларусь, а маскоўская фінансавая дзелавая наменклатура. Такая палітыка можа прывесьці да ліквідацыі незалежнасьці дзяржавы, да поўнай галечы беларускага народа, да велізарных стратаў, непапраўнага глуму і вынішчэньня нацыянальнага, матэрыяльнага і культурнага дабра.

Суседнія з Беларусьсю дзяржавы (Польшча, Летува, Чэхія, Вугоршчына і інш.) дэманструюць і канструктыўны падыход, і канструктыўныя дасягненьні ў паляпшэньні эканамічнага становішча і дабрабыту сваіх грамадзян. Гэта сьведчаньне перш за ўсё нармальнага вырашэньня палітычных пытаньняў, вынік разумнай працы ў інтарэсах сваёй дзяржавы і свайго народа.

Ценявы Кабінет міністраў Апазіцыі БНФ лічыць неабходным пазнаёміць грамадзкасьць краіны з вынікамі аналізу становішча, паказаць яго сур'ёзнасьць, велізарную небясьпеку для нашай дзяржаўнай і нацыянальнай будучыні. Неабходна прымаць эфектыўныя захады па зьмяненьню гэтага стану дзеля ўратаваньня нашай уласнасьці, эканомікі і дзяржавы.

Прынята і абмеркавана на пасяджэньні Кабінета 27.12.1994.

## ПРАЦЭС ПАЙШОЎ І... СПЫНІЎСЯ

5 студзеня у нарсудзе Савецкага раёна Менска аднавіўся працэс па іску экс-міністра абароны Беларусі П.Казлоўскага да галоўнакамандуючага А.Лукашэнкі, газеты "Звязда" і карэспандэнта М.Дзябёла. Генерал Казлоўскі ў парадку кампенсацыі за маральныя страты запатрабаваў спагнаць на яго карысьць з прэзідэнта 30 мільёнаў рублёў, з газеты і яе карэспандэнта - 5 і 10 мільёнаў адпаведна.

Разгляд справы быў адкладзены па прычыне адсутнасьці Лукашэнкі і яго прадстаўніка.

СІМ




# ВЫБІРАЙЦЕ!

Калі сканала імперыя камуністых СССР, то наўзамен інтэрнацыяналізму на абшарах пост-камуністычнага рэжыму паўстаў так добра знаны ў 18-м і 19-м стагоддзях расейскі імперыялізм. Не будзем сягаць глыбока ў гісторыю, але лучнасьць часу наяве. Успомнім тут, на нашай зямлі, вядомае "Русское братство" ці "Союз защиты веры и Отечества" і сучасныя рухі "Очищение", "Союз Офицеров", "Славянский Собор". Мэта іх адна: зьліквідаваць незалежную Беларусь, стварыць на нашай зямлі царства манкуртаў альбо загубіць нашу Бацькаўшчыну "высакароднай" ідэяй брацтва славянскіх народаў.

Так, на першы погляд, мэты знаёмыя. На самой справе гэта не так, бо грунт гісторыі яскрава сьведчыць пра іншае. Расейцы, нават пры ўсіх інтэрнацыяналістычных памкненьнях уладаў камуністых, былі пануючай нацыяй. Іх мова, культура, традыцыі былі нібы маяком для астатніх. Расейскі менталітэт разьвіваўся, рос у розных прапорцыях. Час вызначыў імпэт росту і аўтарытэт. Але здарылася адваротнае, калі рост апярэдзіў аўтарытэт. Малыя і больш вялікія народы пажадалі жыць па-свойму, адметна. Захаваць спадчыну, якую ім наканавалі прашчуры. Вось гэта вялікім інтэрнацыяналістам і апынулася не да густу. Усе, хто ўспомніў пра свае карані, маланкава былі абвешчаны нацыяналістамі, ворагамі. Таму супраць нацыяналістаў і ворагаў трэба весьці барацьбу. КДБ і МУС, якія пасьля развалу СССР у спадчыну атрымала Расея, ведалі, як гэта зрабіць. Інтрыганства, абарона правоў расейскамоўнага насельніцтва - вось галоўныя накірункі вышкаленых цэрбераў ад КДБ і МУС. Яны ведаюць, што рабіць, яны ведаюць, як дзейнічаць. Таму не баяцца нахабнасьці: за імі "Астанкіна", за імі "Маяк", за імі інстытуты, што спецыялізуюцца на дэзінфармацыі.

Супрацьстаяць ім цяжка, але можна. Найлепш гэта рабіць тады, калі нацыя, на род за тое, каб на сваёй зямлі панавала сваё. Хто гэта зразумеў раней, той сёньня прызнаны цывілізаваным сьветам. А хто яшчэ верыць у "сьветлую будучыню", тым у спадчыну - "Саюз Афіцэраў" і "Славянскі Сабор".

А.ЗАХАРАЎ,
Р.ФАРМАНЯН,
сябры Гарадзенскай рады Беларускага Народнага Фронту.

# ЗАЯВА

## Дэпутацкай Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту

Працягваецца мужная барацьба свабодалюбівага чачэнскага народа з расейскім рэгулярным войскам, якое па загаду імперскіх палітыкаў Расеі ўварвалася ў Чачэнскую рэспубліку, сее сьмерць, разбурэньні, зьнішчае грамадзянскае насельніцтва. Расейскія імперскія палітыкі, што даўно адмовіліся ад дэмакратыі, распачалі брудную, жорсткую вайну супраць невялікай каўказскай краіны. Яны растапталі дэмакратычныя прынцыпы, законы, правы чалавека, мараль, правы нацый на самавызначэньне, давер народаў. У інтарэсах новых расейскіх карпарацыяў, манаполіяў і капіталу вядзецца жорсткая бесчалавечная вайна з прымяненьнем самай сучаснай зброі і фактычна за вароты на Каўказ, за нафтавыя камунікацыі і нафту. Імперскія сілы, сілы вайны, якія кіруюць Расеяй, паказалі ўсяму сьвету сваё жудаснае аблічча, пацьвердзілі, што яны гатовыя на ўсё і не спыняцца ні перад якой жорсткасьцю, ні перад якой крывёй.

Але Чачэнская рэспубліка не ўдзельнічала ў галасаваньні за расейскую канстытуцыю. Чачэнскі народ увесь час змагаўся за сваю свабоду і незалежнасьць, быў уключаны ў расейскую імперыю сілай зброі. Вайсковая аперацыя супраць гэтага народа, які ўжо падвяргаўся расейскаму генацыду і дэпартацыі, - недапушчальная, вайна супраць яго - ганебная для тых, хто яе распачаў. Гэта злачынства супраць народа і яго права на самавызначэньне. Ніякія інтарэсы палітыкаў не вартыя страты жыцьцяў людзей. Такія палітыкі павінны несьці крымінальную адказнасьць за злачынствы супраць чалавецтва, за сьмерць людзей, за забойствы па іхніх загадах.

Мы з трывогай назіраем, што сілы імперыялізму, агрэсіі і вайны, што ўзмацнелі ў Расеі, ствараюць пагрозу міру ў дачыненьнях з народамі ў самой Расеі і з суседнімі краінамі і незалежнымі дзяржавамі.

Мы патрабуем спыніць вайну ў Чачні і неадкладна вывесьці адтуль усе акупацыйныя войскі. Мы зьвяртаемся да міжнароднай супольнасьці - узвысіць свой голас у абароны маленькай краіны і свабодалюбівага народа. Толькі народ праз сваю волю можа вызначыць у сваёй незалежнасьці і ў сваім лёсе без чужых танкаў і войска, без крыві і зброі.

Дэпутаты Апазіцыі БНФ
у Вярхоўным Савеце: З.Пазьняк, В.Голубеў, Л.Баршчэўскі, І.Германчук, Л.Зданевіч, Ул.Заблоцкі, А.Трусаў, Г.Сямдзянава, І.Пырх, С.Антончык, С.Навумчык, М.Крыжаноўскі, Л.Дзейка, М.Маркевіч, В.Алампіеў, А.Шут, П.Холад, С.Папкоў, В.Малашка, В.Какоўка, Б.Гюнтар, Ю.Беленькі.

## У ДОМЕ ЎРАДУ

З 10 студзеня ў Доме ўраду ўведзены новы прапускны рэжым. Зараз наведвальнікам, каб прайсьці ва ўрадавыя пакоі, у абавязковым парадку неабходна атрымаць адпаведны дакумент у бюро прапускоў. Існуючае раней "тэлефоннае права", калі ахова прапускала жадаючых пасьля кароткай размовы па вэртушцы, адменена.

Новы прапускны рэжым у Доме ўраду ўведзены з мэтай лепшай аховы Прэзідэнта.

СІМ

# ГІСТОРЫЯ НАМ ПАКІДАЕ ШАНЦ. МАЖЛІВА, АПОШНІ...

## Ці патрэбен Беларусі дагавор аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве з Расеяй?

Пытаньне, вынесенае ў падзагаловак, зусім не рытарычнае. Так наканавана нам, беларусам (наканавана, праўда, не ведаю кім: лёсам, д'яблам ці Богам) жыць побач з вялікім суседам - Расеяй: краінай, якая, нягледзячы на ўсе ўнутраныя складанасьці, застанецца супердзяржавай, з якой вымушаны лічыцца ўсе. Таму было б вялікім глупствам ісьці на жорсткую, дэструктыўную канфрантацыю з ёю.

Былы Савецкі Саюз па сутнасьці быў эканамічна замкнёнай сістэмай, якая магла існаваць сама па сабе, адгарадзіўшыся ад сусьветнага супольніцтва, ад сусьветных рынкаў тавараў. Аналіз эканамічнай сітуацыі ў краінах СНД сьведчыць аб тым, што да сёньняшніх рэаліў змагла ў пэўнай ступені прыстасавацца толькі Расея, бо структура яе эканомікі, за некаторым выключэньнем, напамінае таксама замкнёную сістэму.

Што тычыцца нашай рэспублікі, то яе эканоміка зарыентавана на рынкі суседніх дзяржаў, у пераважнай ступені на расейскі. Да асаблівасьцей беларускай прамысловасьці можна аднесьці і звышманапалізацыю па сусьветных стандартах - 46,6 працэнта (гэта значыць, прадпрыемства выраблае прадукцыю, аналагаў якой у рэспубліцы няма).

(Працяг на 3 стар.).





ГРАМАДЗТВА

# ГІСТОРЫЯ НАМ ПАКІДАЕ ШАНЦ. МАЖЛІВА, АПОШНІ...

Не вельмі прыемныя і наступныя макраэканамічныя паказчыкі: зношанасьць асноўных фондаў на прадпрыемствах рэспублікі ўжо перавышае 65 працэнтаў, а на некаторых прадпрыемствах дасягае 75; нізкі ўзровень тэхналагічнага развіцьця (па ацэнках спецыялістаў, адставаньне машынабудаўнічага комплекса ад адпаведнага заходнегерманскага складае амаль 40 гадоў). І самае небясьпечнае - вымываньне інтэлекту са сферы навукова-тэхнічнага абслугоўваньня прамысловасьці. У гэтым кантэксьце вельмі дзіўным выглядае "разгон", які наладзіў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падчас сустрэчы з супрацоўнікамі Акадэміі навук. Маўляў, дрэнна працуеце, няма новых ідэй, распрацовак. А дзе ж ім быць, калі самыя энергічныя, дасьведчаныя навукоўцы не жадаюць працаваць за жабрацкую па сёньняшніх мерках зарплату).

Менавіта вышэйпералічаныя фактары і не даюць мажлівасьці ўзьняцца беларускай эканоміцы, выпускаць прадукцыю, канкурэнтназдольную па сусьветных стандартах. Не трэба замоўчваць і эканамічную экспансію, якая праводзіцца расейскімі кіруючымі коламі ў адносінах новых незалежных рэспублік, у тым ліку і Беларусі. Расея, карыстаючыся выключным становішчам, праз эканамічныя рычагі (манапольнае права пастаўкі на Беларусь нафты, газу, электраэнергіі) спрабуе частку свайго эканамічнага цяжару скінуць на чужыя плечы, зрабіць эканоміку Беларусі прыдаткам сваёй эканомікі. Зімой-вясной мінулага года тона нафты нам абыходзілася па 128 долараў, калі кошт на Ратэрдамскай нафтавай біржы дасягае 91 долара (сяірэднестатыстычны сусьветны кошт). Ішлі за бясцэнак, па дэмпінгавых коштах беларускія трактары, МАЗы, тэлевізары, прадукцыя сельскай гаспадаркі. Ці не паўторыцца падобнае і вясной 1995 года, калі надыдзе час разьлічвацца за нафту і газ? Чым мяркуе разьлічвацца наш прэзідэнт? Можа, як і былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, аддаючы за бясцэнак самыя "прывабныя кавалачкі" прамысловасьці, энергетычнага комплексу? А такія захады ўжо робяцца. Зноў узьнялося пытаньне з "Белтрансгазам", прадпрыемствам, якое ажыцьцяўляе перапрацоўку і транзіт расейскай нафты за мяжу. Тады Вячаслаў Францавіч ацаніў "Белтрансгаз" у 1,9 мільярда расейскіх рублёў. Якая лічба будзе сёньня?

Не лічу сябе нейкім кансерватарам, чалавекам, які прытрымліваецца архаічных поглядаў. Так, патрэбны акцыяніраваньне, прыватызацыя таго ж "Белтрансгазу", іншых прадпрыемстваў з мэтай удасканаленьня іх працы, прыцягненьня замежных інвестыцый у эканоміку краіны. Але становіцца не па сабе, калі за бясцэнак распрадаецца, расьцягваецца тое, што напрацавана пакаленьнямі беларусаў, іх потам...

Але вернемся да дагавору аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве з Расеяй. Ці патрэбны ён?

Нягледзячы на ўсё сказанае вышэй, лічу, што патрэбен. Бо Беларусь у сілу свайго геапалітычнага становішча на карце Эўропы, у сілу складўшайся структуры эканомікі мусіць быць адкрытай краінай не толькі эканамічна, але і палітычна.

Не сакрэт, што заходнія краіны разглядаюць нашага суседа, у першую чаргу, як экспарцёра сыравінных матэрыялаў, агромністай краіны-рынка з патэнцыяльна вялікімі спажывецкімі здольнасьцямі, з патэнцыяльна эфектыўным укладаньнем капіталаў.

Якая роля ў гэтым кантэксьце адводзіцца Беларусі? Пакуль ніякай. Яна разглядаецца праз расейскую прызму. Але мажлівасьці для таго, каб вызначыць гэтую ролю з мэтай эканамічна падняцца з каленяў, ёсьць. І немалыя. Пры адной умове - праводзіць разумную, дзяржаўную палітыку.

Прыкладаў вельмі шмат. Транзіт нафтавы, газавы, дарожны, чыгуначны. Ён у стане забясьпечыць патрэбу краіны ў энерганосьбітах (16 мільёнаў тон у год, і гэта пры нашым неэфектыўным выкарыстаньні энерганосьбітаў).

Па-другое. Замежныя інвестыцыі ў эканоміку краіны. Ці не вартыя былі ўвагі пры разумных законах прапановы германскай авіякампаніі "Люфтганза" у 1992 годзе, каб перабудаваць першы Менскі аэрапорт, зрабіць яго "перавалачнай базай" з Усходу на Захад і з поўдня на поўнач Эўропы? Альбо прапанова фірмы "Мерседэс" аб стварэньні на базе Жодзінскага аўтамабільнага завода прадпрыемства па зборцы адпаведных легкавых аўтамабіляў з прыцэлам на расейскі рынак, які на сёньняшні момант зьяўляецца адным з буйнейшых спажыўцоў прадукцыі гэтай фірмы?

Такія прапановы не адзінкавыя. Але для гэтага патрэбна палітычная, заканадаўчая воля. Для гэтага патрэбна прыняць адпаведныя законы аб продажы зямлі, аб стварэньні ўмоў для замежных інвестараў. Але наш Вярхоўны Савет да прыняцця падобных рашэньняў яшчэ "не дарос" і, мяркуючы па ўсім, ужо "не дарасьце"...

Вышэй быў закрануты асьпект адкрытасьці эканомікі рэспублікі. А быць эканамічна адкрытым без палітыкі "адкрытых дзьвярэй" немажліва.

Зразумела, расейскі ўрад будзе спрабаваць аказваць ціск і на зьнешнепалітычную дзейнасьць нашай краіны. Не толькі праз дзяржаўныя інстытуты, але і праз грамадзкія арганізацыі. Такія, напрыклад, як "Фонд дапамогі сербам", які ўзначальвае вядомы беларускі пісьменьнік Іван Чыгрынаў. Навошта нам дзейнічаць у фарватэры расейскага зьнешнепалітычнага ведамства і бачыць у тых жа харватах ці мусульманах у палаючай Босьніі ворагаў? Ах, маўляў, сербы - праваслаўныя, і мы, беларусы, адносімся да гэтай канфесіі. А ці так? Для даведкі: на Беларусі на сёньняшні дзень пражывае 1,2 мільёна каталікоў, прыкладна такая ж колькасьць пратэстантаў і каля пяці мільёнаў праваслаўных. Астатнія - іудзеі, мусульмане ці людзі, якія не вызнаюць сваёй прыналежнасьці да нейкай канфесіі. Няўжо на Беларусі не хапае надзённых эканамічных, палітычных, сацыяльных праблем? Няўжо трэба падліваць масла ў рэлігійнае міжканфесійнае вогнішча, абражаць рэлігійныя пачуцьці людзей? Бо беларусы пры монаэтнічным складзе нацыі (у рэспубліцы пражывае 78 працэнтаў беларусаў па нацыянальнасьці) уяўляе вельмі цікавае відовішча па моўнай, эканамічнай, рэлігійнай ментальнасьці.

Найбольш у зьнешняй палітыцы прымальным варыянтам для Беларусі было б далучэньне да Вышэйгародзкай групы, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах краіны, прыблізна падобныя па тэрыторыях, колькасьці насельніцтва, структуры эканомікі (Чэхія, Славакія, Венгрыя і Польшча). Прапановы далучыцца да гэтай чацьвёркі беларускаму боку ўжо былі даўно. Але наша дзяржаўнае кіраўніцтва пакуль чакае. Чым выгодна блакіраваньне з Вышэйгародзкай групай?

Па-першае, дыстанцыяваньне ў неабходных межах ад палітыкі Расеі, магчымасьць праводзіць самастойную палітыку, абапіраючыся на аўтарытэт сусьветнага грамадзтва (зразумела, Вышэйгародзкая група не існуе сама па сабе: у эўрапейскім кантэксьце яна разглядаецца як калідор паміж краінамі Заходняй Эўропы, далучанымі да НАТА, і Расеяй).

Па-другое, прыналежнасьць да гэтага блоку дазволіла б Беларусі больш актыўна выходзіць на рынкі ўсходнеэўрапейскіх краін, а праз партнёраў па блоку - і на Захад...

І напрыканцы. Вялікі дэмограф, сацыяэканаміст Мальтус пісаў: "Нацыі, згубіўшыя сваё аблічча - эканамічнае, палітычнае, дэмаграфічнае - вырачаны на забыцьцё. Але гісторыя заўсёды пакідае шанц. Бывае, што апошні шанц..."

Перакідваючы масток у сучаснасьць, трэба пазначыць злабадзённасьць слоў выдатнага ангельскага навукоўца (дарэчы, ягонае імя, яго думкі, ідэі былі незаслужана зганьбаваны ў так званай савецкай навуцы). Наша краіна апынулася на той мяжы, пераступіўшы якую, мы, беларусы, як нацыя можам адыйсьці ў небыцьцё. І дагавор аб дружбе, добрасуседзтве і супрацоўніцтве з Расеяй (у залежнасьці ад тых асноўных, краевугольных пастулатаў, на якіх будуць узьведзены адносіны паміж дзьвюма краінамі) у асноўным будзе вырашальным у нашым лёсе, у лёсе нашай Бацькаўшчыны.

**Ігар ХОМІЧ,**
**журналіст.**



### АБСЛУГОЎВАЕ АДНАВЯСКОЎЦАЎ

Валяньціна Аркадзьеўна Пілько працуе загадчыцай крамы вёскі Пясчанка Скідальскага спажывецкага таварыства. Пасьля заканчэньня вучобы ў Гарадзенскім кааператыўным тэхнікуме не стала шукаць цёплае месца ў горадзе, а вярнулася ў сваю вёску, дзе працуе ўжо з 1981 года.

**І.БАРЫСАЎ.**

**На здымку: В.А.Пілько падчас працы (фота аўтара).**

## ПРЭЗЕНТЫ ГЕНЕРАЛЬНАГА КОНСУЛА

Генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Мар'януш Машкевіч уручыў калядныя падарункі для дзяцей-сірот Парэчскай школы-інтэрната Гарадзенскага раёна. Падарункі, а ў асноўным гэта прысмакі, былі перададзены ў Генеральнае Консульства ў Горадні праз дабрачынныя арганізацыі Польшчы.

Падчас кароткай сустрэчы з кіраўніцтвам школы спадар Мар'януш Машкевіч паабяцаў дапамагчы дзеткам і вопраткай.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## КРОПКА НА ПРАЦЫ РАДЫЁКРОПКІ

Каля сямідзесяці працэнтаў радыёкропак не працуюць са студзеня ў мястэчку Парэчча, што ў Гарадзенскім раёне.

Прычына - сувязісты не маюць сродкаў, каб набыць новы дрот для праваднай радыёсеткі, а таксама на заказ новых апораў.

**Г.ПАДЛЯШУК.**

Біскуп Гарадзенскай каталіцкай дыяцэзіі А.Кашкевіч высьвяціў прадстаўніцтва міжнароднай дабрачыннай арганізацыі "Карытас".

**Г.Д.**

# ЯК НАС АБСЛУГОЎВАЮЦЬ

У Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася прэс-канферэнцыя на тэму "Стан жыльлёва-камунальнай гаспадаркі і перспектывы яе развіцьця". Свой выступ на ёй начальнік вытворчага ўпраўленьня жыльлёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама С.Рысік пачаў з таго, што паведаміў аб адмене Міністэрствам эканомікі рэспублікі свайго рашэньня аб павышэньні з 1 студзеня цэн на камунальныя паслугі. Па меншай меры, да сакавіка яны, акрамя як на электрычнасьць, не будуць павялічвацца. Ён таксама сказаў: "Альтэрнатывы ўвядзеньня безнаяўных жыльлёвых субсідый няма". А яны будуць налічвацца толькі тым сем'ям, у якіх на аднаго чалавека прыпадае 9-12 квадратных метраў жылплошчы (аблвыканкам, магчыма, у хуткім часе прыме наконт гэтага спецыяльнае рашэньне). Але нават пасьля павышэньня кошту камунальных паслуг насельніцтва будзе аплочваць да 20 працэнтаў іх сабекошту (зараз - 1-3 працэнты).

Потым С.Рысік спыніўся на прыватызацыі жыльля. У вобласьці на пачатак 1995 года прыватызавана сорак працэнтаў жыльлёвага фонду, у тым ліку ў Горадні - 32, на Смаргоншчыне - 56, а на Астравеччыне - ажно 63 працэнты. Па рэспубліцы гэты паказчык складае ў сярэднім 28 працэнтаў. Акрамя таго, 36,9 працэнта кватэраўладальнікаў была налічана жыльлёвая квота (на Беларусі - 24,7 працэнта). С.Рысік супакоіў прысутных, што ў бліжэйшы час увядзеньне дадатковых падаткаў на прыватызаванае жыльлё не прадбачыцца. Але ж будзе праведзена пераацэнка кватэр, бо, на думку Станіслава Альбінавіча, не зьяўляецца нармальнай сітуацыя, калі за жыльлё, пабудаванае ў 1989 ці 1994 гадах, людзі плоцяць розныя грошы.

Як сказаў начальнік упраўленьня ЖКГ аблвыканкама, па-ранейшаму датуюцца з бюджэта пяць відаў жыльлёва-камунальных паслуг: летась сума датацый склала 49 мільярдаў рублёў. Але ж засталася запазычанасьць за газ (7,5 мільярда), цяпло (4,2 мільярда), электраэнергію (1,4 мільярда рублёў). Адначасова прыкладна 7 мільярдаў рублёў вінаватыя камунальнікам спажыўцы: бюджэтныя арганізацыі, прамысловыя прадпрыемствы.

Па-ранейшаму шмат грошай патрэбна на будаўніцтва водазабораў, ачышчальных збудаваньняў, капітальны рамонт жыльля. Раней на гэтыя мэты прыцягваліся сродкі прадпрыемстваў, але, па словах С.Рысіка, ужо на працягу трох гадоў усё робіцца за кошт бюджэта. Плануецца, што да канца года прамысловыя гіганты Горадні ВА "Азот" і "Хімвалакно" зьвяжа тралейбусная лінія. На яе абсталяваньне выдаткавана 1,5 мільярда рублёў, для заканчэньня патрэбна столькі ж. Цяжка спадзявацца жыхарам вобласьці, што ў іх дамах не будзе цечы дах і будзе зроблены капітальны рамонт. Калі летась на гэтыя мэты было выдзелена 54 працэнты ад патрэбнай колькасьці сродкаў, то сёлета прадугледжана толькі 22. Выйсьце бачыцца ў долевым удзеле камерцыйных структур і прадпрыемстваў.

На пытаньні журналістаў адказаў начальнік аддзела жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Гарадзенскага гарвыканкама В.Шпак. Прынамсі, ён паведаміў, што толькі сёлета вырашыцца пытаньне з вызначэньнем месца пад гарадзкую сьметніцу. Адведзена тры месцы, сёлета пачнецца праектаваньне, а ў будучым годзе - будаўніцтва. Мяркуецца, што сьметніца будзе адпавядаць эўрапейскім стандартам.

Шмат праблем існуе з панэльнымі дамамі, пабудаванымі ў 60-тыя гады: цякуць дахі, сыцяныя стыкі. Выйсьце бачыцца ў прыцягненьні сродкаў камерцыйных структур, перадачы на конкурснай і аўкцыённай аснове будынкаў новым уладальнікам і стварэньні калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў (адзін дом у горадзе такім чынам ужо адрамантаваны).

Журналістамі было закранута таксама пытаньне, зьвязанае з устаноўкай у кватэры лічыльнікаў цяпла і вады. В.Шпак адзначыў, што фактычна кватэранаймальнікі спажываюць іх на 30 працэнтаў менш, чым устаноўлена. Але ж каб кампенсаваць выдаткі на ўстаноўку лічыльнікаў, патрэбна звыш 5 мільярдаў рублёў - такіх грошай няма ў бюджэце.

Вячаслаў Леанідавіч таксама паведаміў, што ў Горадні не прадбачыцца будаўніцтва крэматорыя. У той жа час распрацавана праектна-каштарысная дакументацыя абсталяваньня новых могілак, бо старыя хутка не змогуць умясьціць усіх нябожчыкаў (калі раней іх хавалі 5-7 штодня, то зараз - 10-14).

Напрыканцы прэс-канферэнцыі С.Рысік сказаў, што работнікі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі будуць і надалей клапаціцца аб стварэньні належных умоў для жыцьця людзей.

**А.ДУК.**

## ПАЖАР НА СТУДЫІ ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ

Сярод бела дня ў апаратнай Гарадзенскага тэлерадыёцэнтра адбылося ўзгараньне акумулятараў для відэакамер. Яны былі пакінуты на падзарадку і засталіся без нагляду. Дзякуючы намаганьням пажарных, якія хутка прыбылі на месца здарэньня, удалося пазьбегнуць вялікіх страт матэрыяльных каштоўнасьцяў. Але агнём зьнішчана шафа, у якой знаходзіліся батарэі, самі батарэі і закопчаны сьцены.

Па словах аднаго з работнікаў Гарадзенскага дзяржтэлерадыёкамітэта, калі ўваходзіш у апаратную, складваецца ўражаньне, быццам там вэндзілі мяса.

**А.Г.**





# СУМЕЖЖА

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

### КАРОЛЬ ЭКСЬЛІБРЫСАЎ ЖЫВЕ Ў ВІЛЬНІ

Хто ён? Іосіф Шапіра - мецэнат і апякун жыдоўскай культуры. Ён сабраў самую вялікую калекцыю кніжных знакаў. Гэта пацьверджана Міжнароднай асацыяцыяй калекцыянераў, членам якой зьяўляецца і Шапіра. У ягонай калекцыі больш за 120 тысяч эксьлібрысаў, якія ён набыў, галоўным чынам, дзякуючы абмену з мастакамі сьвету. Нават у Лонданскім дзяржаўным музеі знаходзіцца крыху больш за 100 тысяч. І.Шапіра ўдзельнічаў у шматлікіх міжнародных конкурсах эксьлібрысаў як адзіны прадстаўнік Летувы і былога Саюза. На выставах у Італіі, Нямеччыне, Польшчы ён атрымаў каля 50 узнагарод. Шапіра зьяўляецца таксама і старшынёй клуба філатэлістаў. Дома ў яго вялікая колькасьць марскіх ракавін, калекцыя мінералаў, каралаў, больш за 700 збаноў.

Пры Дзяржаўным жыдоўскім музеі Шапіра вырашыў заснаваць свой фонд. Перанёс туды ўсю сваю калекцыю. Па спецыяльнасьці ён інжынер-паліграфіст. Амаль сорак гадоў ён працаваў у Камітэце па друку. Складаў крыжаванкі, галаваломкі, матэматычныя задачы, выпусьціў кнігу. За ганарары і папаўняў свае калекцыі. Цяпер жыве толькі на пенсію. Адкуль цяга да калекцыянiраваньня? Гэта ад бацькоў, дзядоў, прадзедаў. Усе нешта калекцыяніравалі: прадзеды - кнігі, жыдоўскія малітоўнікі, бабка - паштоўкі, дзед - манеты, бацькі - маркі і манеты.

Калекцыянерам Іосіф стаў, калі яму выкладчык Віленскага ўніверсітэта Кісін падарыў тры эксьлібрысы.

Для мастакоў планеты гонар - зрабіць эксьлібрыс каралю. Мастакі, якія спецыяльна зрабілі для Шапіры звыш 150 эксьлібрысаў, раскрылі ягоны характар, цягу да тэатра, паляваньня, кніг. І.Шапіра зрабіў сам сабе каля дваццаці кніжных знакаў.

"Вяртаючыся дамоў стомленым, возьмеш эксьлібрыс, пачнеш разглядаць, чаму мастак намаляваў так, а не інакш, і адчуваеш, як супакойваецца нервовая сістэма", - гаворыць Шапіра.

Жыдоўскі музей, які знаходзіцца ў цэнтры Вільні, наведваюць розныя людзі. Адзін архітэктар напісаў: "Я знаходжуся пад вялікім уражаньнем таго, што можа зрабіць адзін чалавек, які бязьмежна любіць культуру свайго народа, яго звычаі, мастацтва, людзей..."

Уладзіслаў СТРУМІЛА.

### РАЗАГНАЛІ ФІРМУ «ЧАРОЎНЫХ СПАДАРОЖНІЦ»

Каўнаская паліцыя прыпыніла дзейнасьць яшчэ адной фірмы "чароўных спадарожніц". Затрыманы работнікі (мужчына і жанчына), якія прымалі заказы, і восем "спадарожніц", якім ад 19 да 24 гадоў. Двое з іх - мясцовыя, астатнія - прыезжыя (з Калінінграда, Менска, Горадні, Варонежа). Адна нядаўна ўжо затрымлівалася, яна на шостым месяцы цяжарнасьці.

Незарэгістраваная фірма, якая дзейнічала каля года, спачатку называлася "Ласкавыя рукі", затым - "Ларыга". У яе былі дзьве канторы, дзе прымаліся заказы. Дзяўчыны жылі на кватэрах, па дзьве-тры ў пакоі.

Сабраўшы інфармацыю, паліцыянты пад выглядам кліентаў выклікалі на кватэру двух "спадарожніц". Спачатку прыехаў вадзіцель. Ніякіх падазрэньняў у яго не зьявілася. Потым даставілі дзьвюх дзяўчат. Пасьля разьліку ўсе трое былі затрыманы.

У абедзьвюх канторах і на кватэрах, дзе жылі "спадарожніцы", паліцыянты затрымалі астатніх прастытутак і яшчэ трох работнікаў фірмы. Яе ўладальніка, 25-гадовага нідзе не працуючага жыхара Каўнаса, дома не знайшлі.

"Ларыга" - ужо дванаццатая фірма, ліквідаваная за мінулы год. Але, па словах паліцыянтаў, іх колькасьць не зьмяншаецца, яны пасьпяхова маскіруюцца. Зараз па тэлефону ўжо не абмяркоўваюць фізічныя дадзеныя жывога тавару. Размова ідзе аб колеры букета, памеры кветак, паху. Да кліентаў "спадарожніц" прывозяць пад выглядам "хатніх гаспадынь" з вёдрамі і шчоткамі. Заказы ў канторах звычайна не рэгіструюцца, таму даказаць, што тут працуюць прастытуткі, вельмі цяжка.

Затрыманыя "спадарожніцы" прызналіся, што займаліся прастытуцыяй. Тыя, што прыехалі з Расеі і Беларусі, павінны быць вернуты назад, але ў іх няма пашпартоў. Дакументы знаходзяцца ў гаспадара фірмы, але яго пакуль не знайшлі. Мясцовых адпусьцяць, ім пагражае толькі штраф у памеры больш ста літаў. "Шэф" можа атрымаць 3-5 год пазбаўленьня волі з канфіскацыяй маёмасьці, але можа абыйсьціся і штрафам. Суды звычайна штрафуюць у такіх выпадках на паўтары тысячы літаў.

LR

### «ФАЙНЕНШЛ ТАЙМС» - ПРА ЛЕТУВУ

У канцы лютага ў Летуву прыбудуць рэпарцёры з "Файненшл таймс". Газета мае намер на сваіх старонках расказаць пра эканоміку балтыйскай краіны, яе банкі і фінансы, прыватызацыю, замежную палітыку, асобныя сферы прадпрымальніцтва. Плануецца, што эканамічны агляд Летувы будзе надрукаваны ў нумары за 14 сакавіка.

Нядаўна газета падрыхтавала чатырохпалосны дадатак, прысьвечаны Латвіі.

### СЬМЕРЦЬ НА ПРАЦЫ

Урад Летувы зацьвердзіў палажэньне аб налічэньні дапамогі, калі работнік загінуў на працы ў выніку няшчаснага выпадку.

Прадугледжана, што дапамога будзе выплочвацца, калі работнік загінуў у выніку парушэньня нарматыўных актаў аховы працы. Дапамога зьяўляецца адзінапачовай і павінна складаць не менш 500 мінімальных штомесячных заробатных плат, памер якіх вызначаны ўрадам.

МГ

### СТРАЧАНЫЯ МІЛЬЁНЫ

Як толькі выбухі шампанскага абвясьцілі надыход Новага Года, Польшча, у якой бадай кожны чалавек быў мільянерам, здала свае "заваёвы". "Але гэта справядліва, - лічыць звычайны абывацель гэтай краіны. - Быць мільянерам, маючы наяўнымі 40 долараў, непачэсна".

Таму закрэсьленыя з першага студзеня па загаду нацыянальнага банка чатыры нулі скасавалі гэтую недарэчнасьць.

Цяпер адзін долар ЗША будзе роўны прыкладна 2,4 злотага, а той, хто меў зарплату ў пяць мільёнаў злотых (каля 200 долараў), будзе мець усяго 500 злотых.

(з.д.)

**Беласточчына - згустак Беларушчыны Польшчы. Аздабляюць культурную спадчыну беларусаў дзесяткі праваслаўных храмаў.**

**НА ЗДЫМКУ: Царква Ўваскрашэньня ў Бельску.**



### КРЫКУН ПААБЯЦАЎ МАЎЧАЦЬ

Беспрацоўны пьянчужка з расейскага горада Чарапавец два дні запар крычаў пад вокнамі адной чарапавецкай фірмы, абвінавачваючы злыдняў-камерсантаў ва ўсіх грахах.

Утаймаваць крыкуна было немагчыма нават гарэлкай. Не вытрымаўшы абразаў, намесьнік дырэктара фірмы выйшаў і падстрэліў крыкуна з газавага пісталета.

Перапалохаўшыся садзеянаму, "сьмелы" намесьнік пачаў адпойваць сваю ахвяру каньяком. Крыкун у момант ажыў і запатрабаваў за нанесеныя шкоды тры бутэлькі гэтага напою. Атрымаўшы "кампенсацыю", крыкун-вымагальнік паабяцаў болей не крычаць.

### ГРУЗАВІК СЯРОД АКІЯНУ

Каманда ангельскага траўлера "Луіза", які вядзе лоўлю селядцоў у Паўночнай Атлантыцы, пацірала рукі ад задавальненьня, назіраючы, як з глыбінь паднімаецца паўнютная сетка. Якое ж зьдзіўленьне было ў матросаў, калі наўзамен рыбы ў сетцы заблішчэў велізарны грузавік. Матросы пасьпелі ўбачыць, што ён зусім навюткі. Пакуль экіпаж перажываў ўбачанае, грузавік, прадраўшы сетку, зьнік у віры. Як змагла апынуцца аўтамашына ў 500-х кіламетрах ад берага, пакуль што загадка, бо на аб'яву аб знаходцы, якую матросы далі па радыё, ніхто не адгукнуўся.

### ІЛЬВЫ ЗУСІМ АЗЬВЯРЭЛІ

Рэдкі для дзікай прыроды інцыдэнт адбыўся нядаўна ў індыйскім біялагічным парку "Нандан Канан". Ні з таго ні з сяго група ільвоў накінулася на маладую ільвіцу і ў момант яе зьела.

Заолагі парку сцьвярджаюць, што і раней былі сьмяротныя схопкі паміж ільвамі. Але выпадак, калі "цар зьвяроў" зьеў свайго суродзіча, зафіксаваны ўпершыню.

### МНІШКІ СУПРАЦЬ ПАСТЫРАЎ

У спаборніцтве накшталт "Клуба вясёлых і знаходлівых", праведзеным берлінскай тэлестудыяй RTL паміж евангелісцкімі пастарамі і каталіцкімі мнішкамі з ордэна "Дочкі Езуса", апошнія не пакінулі шанцаў сваім сапернікам, бліскуча разгуляўшы пародыю на ансамбль "BEATLES".

### ПАЛІЦЫЯНТЫ-ЙОГІ

Часы па вывучэньню сістэмы йогі ў якасьці абавязковага прадмета распачалі вывучаць у школе па падрыхтоўцы паліцэйскіх у індыйскім горадзе Хайдарабад.

На думку выкладчыкаў, рэгулярныя заняткі па вывучэньню методык старажытных мудрацоў, а таксама ўрокі медытацыі дапамогуць замацаваць маральна-псіхалагічныя якасьці будучых ахоўнікаў парадку.

(з.д.)

## «У ІЗРАІЛІ Я НЕ АДЧУВАЎ СЯБЕ ЧУЖЫНЦАМ»

**Кастусь Пашкевіч колькі год таму скончыў Гарадзенскі палітэхнічны тэхнікум па спецыяльнасьці тэхнік-будаўнік. Працаваў на савецкіх новабудоўлях брыгадзірам, майстрам, прарабам. Незадаволіўшыся ўмовамі працы, заробкам, спачатку ад'ехаў да Польшчы. Адтуль разам з некалькімі сябрамі-палякамі завербаваўся да адной будаўнічай ізраільскай фірмы. На каталіцкія каляды гасьцяваў у бацькоў у Горадні. Менавіта падчас пабыўкі Кастуся на радзіме і адбылася наша сустрэча.**

- Я пажадаў заможна жыць, мець грошы і шмат чаго іншага. Таму, калі працаваў на тартаку ў Гайнаўцы на Беласточчыне, ўважліва сачыў за аб'явамі па найму працоўнай сілы. Не адразу ўсё было гладка. Спрабаваў сябе ў Фінляндыі на цэлюлозным прадпрыемстве, потым быў на лесапавале ў Нарвегіі, дзе абсякаў сукі. Як бачыш, праца была, а пажаданага заробку - кот наплакаў. Ізраіль стаў чацьвёртай замежнай краінай, дзе я шукаў заможнага жыцьця.

**- І атрымалася?**

- Так, на зямлі абяцанай знайшлося шмат добрай працы для мяне, беларуса-шчасьцешукальніка.

**- Калі гэтая праца не сакрэт, то, калі ласка, падрабязней?**

- Які тут сакрэт. Працую ў сарака кіламетрах ад Іерусаліма. Прафесіі будаўніка не здрадзіў. Брыгадай з шасьці чалавек узводзім шчытавыя дамкі для перасяленцаў-габрэяў. Наша праца крыху рызыкоўная, бо часам пастрэльваюць бавікі з непрымірымай палестынскай апазіцыі. А калі сьвішчуць кулі, то, як кажуць, "не до жиру, быть бы живу".

**- Кастусь, ты працаваў на нашых будоўлях, зараз працуеш за мяжою. Ці параўнальна гэта?**

- Ніякага параўнаньня не можа быць. Тут - адны прастоі. Там - інтэнсіўная, высокатэхналагічная праца. Напрыклад, пачатак працы а сёмай гадзіне раніцы. З гадзіны працы - дзесяць хвілін перапынак. Летам, калі занадта горача, працуем з шасьці да адзінаццаці раніцы. Потым - перапынак аж да 16 гадзін і зноўку праца да 20 гадзін вечара. Абеды, жыльлё, рабочая вопратка за кошт працадаўцы. І гэта фактычна ўся сацыяльная абарона. Калі хварэеш, то як кажуць, за свой кошт. Адпачынак, а бяруць яго ў Ізраілі па жаданьню не болей як на 10-12 дзён, таксама за свой кошт. Гэтае правіла адзінае як для эмігрантаў-рабочых, так і для тубыльцаў.

**- Няўжо не існуе аніякіх абмежаваньняў для прыезджых?**

- Існуюць. Часам у нечым западозрыць вайсковы патруль. Тады ён проста вас абшукае ў мэтах перасьцярогі. Можа нават і затрымаць для высьвятленьня вашай асобы. Праўда, робіцца гэта тактоўна. Мяне асабіста затрымлівалі ўжо неаднойчы і заўжды потым прасілі прабачэньня.

**- Як ставяцца да рабочых-эмігрантаў грамадзяне Ізраіля?**

- Праблемаў няма, бо большасьць грамадзян зямлі абяцанай - гэта выхадцы з былога СССР. Яны валодаюць "великим и могучим", распытваюць, шукаюць землякоў.

У мяне былі сустрэчы з гарадзенскімі габрэямі, якія жывуць на гістарычнай радзіме па дзесяць і болей год. Бываў у іх сем'ях. О, гэта былі цудоўныя сустрэчы з фаршмакам, песьнямі, успамінамі. Не, на зямлі абяцанай я не быў чужынцам. Таму, прыехаўшы дадому, фактычна не распакоўваў свае дарожныя валізкі. Прывёз падарункі родным і зноў зьбіраюся ў дарогу.

Запісаў Г.АСТРОЎСКІ.

